# ВЯРОВІЦА АЛЕСЯ КАМОЦКАГА

складзеная з вершаў Рыгора Барадуліна
і фотаздымкаў Джона Кунстадтэра



# ВЯРОВІЦА

Алеся Камоцкага,
складзеная з вершаў
Рыгора Барадуліна
і фотаздымкаў
Джона Кунстадтэра
пры музычным аздабленні
Аляксандра Віслаўскага

Мінск
«Радыёла-плюс»
2011



# ВЯРОВІЦА

Алеся Камоцкага,
складзеная з вершаў
Рыгора Барадуліна
і фотаздымкаў
Джона Кунстадтэра
пры музычным аздабленні
Аляксандра Віслаўскага

Ойча наш, што ў нябёсах,
Хай сьвяціцца імя Тваё і ў зорах, і ў лёсах.
Хай прыйдзе Царства Тваё, як спатоля,
Хай Твая ўсеўладарная збудзецца воля
Як на небе, гэтак і на зямлі.
Хлеб наш надзённы пашлі,
Жыцьцядар, сёньня нам.
І даруй нам нашы даўгі,
Як і даруем мы даўжнікам.
Адгарадзі ад нас спакусьлівыя лугі,
І ў смутны час, і ў цёмныя дні
Нас ад нячысьціка аслані.
Ня зрушыцца Царства Тваё,
І рушаць рухава
Ад Твайго цьвярдога парога
І сіла, і слава твае мілаты і лагоды,
Айца і Сына, і Духа Сьвятога
Цяпер і заўсёды, І на вячніны вячнін.
Амін.

Богу ў вочы глядзець і душою
Па ягоных сьцяжынах ісьці,
Жыць удзячна ў імгненным жыцьці,
Не сварыцца са злосьцю чужою.

Богу ў вочы глядзець і душою
Размаўляць з усявышнім Тварцом,
Піць бяду і нагбом, і карцом,
А ні срэбрам ня быць, ні іржою.

Богу ў вочы глядзець і душою
Кожны рух чысьціні паўтараць,
Голасу дабрыні патураць,
Як парчой ахінацца імшою.

Богу ў вочы глядзець і душою
Ніцма падаці ў ногі Айцу
І жывому жадаць, і мярцу
Боскае мілаты і спакою.

пс. 6

8. Ад тугі запала вока маё,
састарэлася ад множства
перасьледаваццеляў маіх.
9. Адступіцеся вон ад мяне,
ўсе злачынцы!
Бо Госпад пачуў голас плачу майго.

Бачыць далей маладое вока,
Вока старое глядзіць глыбей.
Раньняя вестка, як тая сарока,
З лесу хутчэй ляціць да дзьвярэй.

Позьняя вестка, як тая варона,
Глуха чарнее на голым суку.
Поўніцца вока старое бяссонна
Смуткам, як поўня на скразьняку.

Высахнуць цяжка воку, як мору,
Толькі калі высыхае яно,
Здасца прадонным галоднаму гору,
Ціхаму небу пакажацца дно.

пс. 12

7. Словы Госпада — шчырыя словы:
срэбра ў горне ад зямлі ачышчанае,
семкротператопленае.
8. Ты, Госпадзе, нас абароніш,
навекі ад роду гэнага захаваеш!
9. Усюды наўкола нас
пахаджаюць бязбожнікі,
бо спасярод сыноў чалавечых
узвысіліся найбольш нягодныя.

На ўсё стае бязбожных, бо яны
Жывуць, каб толькі жыць валадарамі,
І д'яблавымі цешацца дарамі,
Пакуль у пугу верацъ табуны.

На ўсё стае бязбожных, бо яны
Стараюцца сябе зрабіць багамі.
І ў Божым храме хам крычыць у хаме —
Павагу й зайздрасьць мае да маны.

На ўсё стае бязбожных, бо бяз іх,
Відаць, было б і небу сумнавата.
І ціхі кат за брата лічыць ката,
І вечны грэх на ўсё глядзіць, як мніх.

На ўсё стае бязбожных, бо праз іх
Нікчэмнасьць узвышаецца пыхліва.
І пустазеліцца людская ніва,
А не ўцячы ёй ад сярпоў тупых.

пс. 19

2. Нябёсы апавядаюць славу Божую
і прасторы выяўляюць творчасьць рук
ягоных.
3. Дзень дню наказуе вестку,
і ночка ночцы яе адкрывае.
4. Няма мовы, няма слова,
але чуцен голас іх.
5. Па ўсенькай зямлі гук іх разыходзіцца,
а словы іхныя ажно па край сьвету.
У ім Ён паставіў шацёр сонцу.

Ноч з галавы, а дзень жыве з вачэй.
Ноч грэшна бавіць час, а дзень пацешна.
Ноч думае, а дзень сабе хутчэй
Стараецца ўсё выгаварыць сьпешна.

Дзень перадаць наступніку свайму
Сьпяшае недамоўленае слова,
Сэнс грэецца ля зорак і таму
На долы абніжаецца часова.

Як не шапчы, як крычма не крычы —
Сэнс рэдка адгукаецца на словы,
І веды ноч перадае начы,
А ў ведаў зірк прыхмарана суровы.

Як не сьляпы, той зірк убачыш ты,
Калі й сьляпы — адчуеш зірк душою.
Відушчым зробішся ад віднаты,
І станецца сваім табе чужое.

пс. 23

3. Ён узмацняе душу маю,
на сьцежкі праўды вядзе мяне
дзеля іменьня Свайго.
4. Дык навет праходзячы далінаю
ценю сьмяротнага
ня буду баяцца напасьці, бо Ты ж са мною:
Твая паліца й падпора Твая —
яны мяне пацяшаюць.

Са мной паміраецьме цень мой жывы.
І цень мой нябожчыкам стане таксама.
Зачыніцца глуха нябесная брама,
Ня ўбачу ў даліне ні хмар, ні травы.

Паселіцца вечная ноч у ваччу,
Сваё адхвалююся, адлетуценю,
У змрочнай даліне сьмяротнага ценю
Я з ценем сваім разьвітацца хачу.

Бо цень быў напарнікам мне і віжом:
Сачыў, віжаваў, дзе б ні жыў пры сьвятле я.
У зыбкай даліне і цень мой скалее,
Ня выпырхне ні вераб'ём, ні стрыжом.

На сьцежцы стаптанай і на ярыне
Кунежна сьлядам
                    і нястрымна трымценьню.
І покуль жывы, давяраюся ценю,
Бо ценіцца цень і дрыжыць за мяне.

пс. 27

9. Не хавай ад мяне аблічча Твайго,
не гані ў гневе раба Твайго!
Ты быў мне ўспамогай!
Не адцурайся-ж мяне і не пакінь мяне,
Божа, Спасе мой!

Бачу вочы Твае,
хоць Цябе я ня бачыў ніколі,
Чую голас Твой вышні,
хоць ніколі ня чуў я Цябе.
Гэтак вязень сьляпы
бачыць вочы забытае волі,
Гэтак чуецца голас
зьнядзелены немай мальбе.

Я Табою малюся і Табою сьмялею й баюся,
Я, Табою дазволены жыць, паміраю й жыву.
І Табой паддаюся і не паддаюся спакусе,
Я са страхам і верай на плаху кладу галаву.

Чуць ды бачыць Цябе — і зашмат, і замала.
Гэта ласка нябесная —
слухаць Тваю цішыню.
Ты прыдумаў мяне мудра і дасканала,
Я пахібіў Твой плён, і сябе я за гэта віню.

пс. 31

8. Дай мне радавацца й весяліцца
з ласкі Тваёй, што Ты глянуў на муку маю,
рупіўся аб патрэбы душы маёй.
11. Бо ў жудасьці зыйшло жыцьцё маё
і гады мае ў уздыханьні.
Зьнямаглася сіла мая ў грахох маіх,
і павысахлі косткі мае.

Прыгоршчамі маладзіка й веташка
І даланёю поўні
Вычэрпвае дні мае скрухі рука,
Дапаўшы да апошняе схоўні.

Вычэрпвае, як з чаўна ваду,
Вычэрпвае й дно выскрабае,
Я сьледам за ценямі дзён іду,
Вярнуць іх — надзея слабая.

Сьпяшаюцца цені, зьнікаюць яны,
Ня ведаючы ляноты,
І застаюцца са мною адны —
Скруха мая ды стагноты.

пс. 72

1. Божа, дай суд Твой цару
й справядлівасьць Тваю сыну цараваму,
2. каб судзіў народ Твой
паводле справядлівасьці і ўбогіх Тваіх
водле права,
3. каб прынесьлі горы супакой народу
і ўзгоркі — справядлівасьць...

Горы ўгарбелі, мір несучы,
Праўдзе пагоркі падставілі сьпіну,
Людзі чакаюць лепшай пары,
Гоняць плыты прамянёў асначы,
Ім ні супыну няма, ні спачыну —
У асначы падаліся вятры.

Несьці нялёгка праўду і мір,
Горамі вырасьці мараць пагоркі.
Як жа пагоркам з маленства ўцячы?
Аж закіпае ад зайздрасьці вір,
Робіцца ветах ад рэўнасьці горкі,
Людзі й ня думаюць дапамагчы.

пс. 73

7. З перасычэньня паходзяць грахі іх,
цераз край пераліваюцца думкі іх сэрца.
8. Над усім яны зьдзекуюцца
й зласьліва абмаўляюць;
звысака гавораць аб нядолі.
9. Да неба ўзьнімаюцца вуснамі сваімі,
язык жа іхні па зямлі гуляе.

У вуснаў ёсьць дамова з языком,
Пра гэта змоўчыць цішыня нямая.
Язык трымацца мусіць пад замком,
А неспасьціжны ключ душа трымае.

Бо вусны — вусьце думкі, што сама
На выйсьце просіць у душы дазволу.
На думку кратаў і замкоў няма,
Бянтэжыць думка ерась і крамолу.

Душа — гняздоўе прыцемку й сьвятла,
Хто ўзважыць, што ў душы пераважае?
Ня раз палону тлен перажыла
Душа. Яна й свая табе чужая.

Часовыя. Ня ведаем, калі
Душа пакіне нас, як думка высі,
Але язык ня вінен па зямлі,
Як пуга пастухова, валачыся.

пс. 75

5. Да гордых кажу Я: не падымайцеся!
да бязбожных: не падымайце ўверх рогу!
6. Не падымайце высака рогу,
не кажэце дзёрзка супраць Скалы!
7. Бо не з усходу, ні з захаду,
ні з пустыні вывышшэньне,
8. але Бог ёсьць Судзьдзя: гэтага Ён паніжае,
таго-ж вывышшае.

Не ўзвышэньне сябе самога,
А ўзвышэньне з самога сябе —
Непадсільная перамога
У нясканчанай барацьбе.
Не ў дагоду сьцежка з Усходу,
А ў халодную ноч вядзе,
Захад захады робіць, выгоду
Выглядае сабе кагадзе.
І сьпякотны вецер з пустыні
Не асушыць сьлёзы з вачэй,
Дол нагрэецца і астыне,
Разбаліцца боль балючэй.
Над забытасьцю, над імшою,
Над прадоньнем цёмнай маны,
Над спустыненаю душою
Мусіць голас узвысіць нямы.
Мелкія ў суцяшэньня кішэні,
Хто ня клаў у іх — той дастае.
Узвышаймася, бо на ўзвышэньне
Вышыні ў нябёсаў стае.

пс. 85

12. Праўда вырастае із зямлі,
а справядлівасьць з нябёсаў пазірае.
13. І абдорыць нас Госпад добрым,
а зямля наша дасьць свой плод.

Праўда ўперадзе не павадыркаю ходзіць,
На дарогу стаўляе свае ступакі,
Па якой перад ёю ступалі вякі,
Праўда тое, што неба схавала, знаходзіць.

Хоць з наўпростай дарогі сьмяецца крывая,
Праўда ходзіць наўпростай дарогай здаўна.
Як і мы, праўда ходзіць пад Богам, яна,
Як і мы за яе, за нясьхібнасьць трывае.

Праўда йдзе па зямлі,
дзе сумёціцца сьмецьце,
Дзе за ёй неадступна цікуе мана.
Не прывыкла сябе вінаваціць яна —
Верыць ноч, што яе апраўдае дасьвецьце.

пс. 102

5. Абгарэла ды высахла сэрца маё, як трава,
ажно хлеб свой я есьці забываюся.
6. Ад галоснага стагнаньня майго
косткі мае да цела ліпнуць.
7. Я падобны да пэлікана ў пустыні,
да савы, што сярод руіны.
8. Сну мне няма, і наракаю,
як птушка на страсе адзінокая.

Адзінокая птушка на даху
Дах вартуе, ці дах яе...
І трывае, й бароніць ад страху,
Птушка прыцемкаў сумна пяе.

Адзінокая птушка на даху
Ад падумкі той аднае,
Што крылу не стае размаху,
У пляніцу сябе аддае.

Адзінокая птушка на даху
Забываецца песьні свае.
За халодную апранаху
Вечару свой дзень прадае.

пс. 103

13. Як літуецца бацька над дзяцьмі,
гэтак Госпад літуецца над тымі,
што баяцца Яго.
14. Бо ведае Ён, з чаго зьлеплены мы,
памятае, што мы — толькі пыл.

Сьветлая боязь душу ахінае,
Строме зайздросьціць адхон.
Падае ніцма радасьць зямная,
Марнасьцю робіцца плён.

Страх перад імем Тваім неназваным
Існай дарогай вядзе,
Грэх, што хацеў бы назваціся панам,
Чэзьне, як дым на вадзе.

А ці ў палатцы,
А ці ў палацы
Кайна хілю галаву.
Госпад!
Дазволь мне
Цябе баяцца,
Покуль баюся — жыву!

пс. 103

15. Чалавек — як трава, яго дні;
як краска ў полі, так ён цьвіце.
16. Праляціць подмух ветру, і няма ўжо яго,
і ўжо месца ягонае не пазнае яго.

Век чалавечы — як сьнег на галінцы,
Дзень чалавечы — як помах крыла,
Толькі за зёлкай пасьпеў нахіліцца,
Выпрастаць сьпіну труна памагла.

Кожнаму хочацца ліха аб'ехаць.
Лёс залагодзіць, чым нельга і льга,
Раніца хмар наахапчыць на вехаць,
Пачырванее за вечар смуга.

Дол прыхарошыцца травамі гожа,
Сподзеў і страх чалавеку свае,
Вецер дыхне — і няма, і яго ўжо
Мейсца ягонае не пазнае.

пс. 104

3. Харомы Твае Ты паставіў над водамі,
хмары ў воз для сябе абяртаеш,
на ветравых крыльлях Ты ходзіш.
4. Ты робіш вятры пасланцамі Тваімі,
служкамі Тваімі — агонь, што палае.
5. Ты паставіў зямлю на слупох яе,
і ня можа яна пахіснуцца навекі.
6. Бяздоньнямі, як шатай,
пакрыў Ты яе.

Зімой завірухі ідуць у попрадкі,
Матаюць ніткі дажджу навальніцы,
Каб толькі ты не была бяз вопраткі,
Каб не згарэць табе і не застудзіцца.

Якімі ткачамі бездань сатканая,
Пашыта краўцамі якімі?
Ахінала цябе ахінае з пашанаю,
Покуль трывогу час не пакіне.

Цябе — пылінку няіснасьці кволую
З далоні свае ня зьдзьмухне магута,
Бясконцасьць цябе спавівала голую,
Вырасьцеш — будзеш калісьці пачута.

пс. 104

13. З вышыні Тваяе Ты поіш горы;
пладамі тварэньня Твайго
зямля насычаецца.
16. Насычаюцца дрэвы Гасподнія,
кедры Лібанскія, якія Ён насадзіў;
17. на іх птушкі гнязьдзяцца,
і бусел дамок свой на кіпарысе знайшоў.

Яліны — зялёныя скініі,
Прыстанак прысталых крокаў,
Нябёсы на стрэхі ім скінулі
Буслоў, як акраўкі аблокаў.

Сьціха адхінаюцца клёкатам
І цішаю клямчацца дзьверы,
Зямным і нябесным клопатам
Буслы ў ялін у даверы.

І позірку мроіцца сьмелае,
Прыняўшы дасьвецця палоны,
Стаіць ад чаканьня здранцьвелая
Яліна, як бусел зялёны.

пс. 104

14. Ты ўзрашчаеш травы для скаціны
й расьліны людзям на карысьць,
каб збожжа з зямлі вырастала
15. і віно, што сэрца людзям весяліць,
і алей, ад якога твар іх блішчыць,
і хлеб, што чалавеку сэрца пасілкуе.
19. Ён месяц стварыў
вызначаць часы пэўныя;
сонца захад свой ведае.

Дні на зямлі твае, як дзень адзін,
Калі ён скончыцца — ніхто ня скажа.
Ты зьнікнеш — не заўважыцца прапажа,
Рацэ няўцям, як шмат растала льдзін.

Твой цень апошні цемра ахіне,
І ўжо не зразумееш, дзе ты, хто ты,
І ад цябе ў маўклівай старане
Адступяцца надзённыя турботы.

Пакуль твой цень, старайся ўсё пасьпець,
Бо дарабляць ня вернешся, магчыма.
Пакуль заход яшчэ ня хоча цьмець,
Кон пазірае добрымі вачыма.

І сонца — служка Боскай мілаты,
Стараецца шчырэй разьліць лагоду,
Яно свой захад ведае, а ты
Ня ведаеш ні захаду, ні ўсходу.

пс. 110

3. Народ твой у дзень перамогі тваёй
зьбярэцца ў аздобе сьвятой самахоць;
як раса із улоньня сьвітаньня,
народзяцца дзеці твае.

І за расу, і за сьлязу нічога
Чысьцейшага няма, раса сама
Нагорнецца на вока Пана Бога,
Не разбурыўшы воблік абраза.

І на зямлі далёкае ад бруду
Раса зайздросьціць зерню на сяўбе,
Падлеглая паўторанаму цуду,
Расінка сонца носіць у сабе.

Раса й краса зь нічога не ўзьнікае,
Лёс крочыць пеша, воз сябе вязе,
І радасьць, як рачулка гаваркая,
Сьмяецца і ў расінцы, і ў сьлязе.

Вераадступніка чакае згуба.
Самапрысуд, як брытва ў два лязы.
Пяшчоціцца ў расінцы сонцу люба
І ўтульна роспачы на дне сьлязы.

пс. 126

4. Вярні, Госпадзе, нашых палонных,
як патокі на землю паўдзённую.
5. Хто ў сьлёзах пасеяў,
той жаць будзе з пяяньнем.
6. Народ плачучы йдзе
і насеньне нясе на пасеў,
але ў радасьці ў хату ён вернецца,
снапы свае нясучы.

Зерне плачу рунее, каб сьмела
Зазьвінець сьпелаю збажыной.
Толькі тое, што доўга зімела,
Не нацешыцца доўга вясной.

І на памяці поля снапамі
Засьмяецца ўраджай, як багач,
Покуль густа сьнягі не напалі,
Сьлед вятроў даганяціме плач.

І савецьме дакука савою,
Што аблётала гнёзды ня ўсе.
Маладзіцаю перад сабою
Радасьць лёгка снапы панясе.

пс. 137

7. Прыпомні, Госпадзе,
сыном Эдомскім дзень Ерузаліму,
як крычэлі яны: Далоў яго!
Руйнуйце яго, руйнуйце аж да падвалінаў!
8. О, дочка Бабілёнская,
ты спусташэльніца! Шчасьлівы той,
хто адплоце табе за ўсё,
што ты нам зрабіла!
9. Багаслаўлены, хто дзіцянятак тваіх,
схапіўшы, паб'е аб каменьне.

Хай сабе ён і ворагаў,
Чэрап дзіцячы,
Ён — маленькае неба
З небасьхілам няпэўным,
І трымаецца толькі
Радасным плачам
Чэрап будучага пастуха
Ці царэўны.

Хай жа камень праклёну
Мяккай падушкай стане
З летуценнага пер'я
Залётнае аблачыны,
Хай аб наканаваньні
Папярэджваюць здані,
Забяруць з сэрца камень
Змрочнай прычыны.

(пс. 151)

5. Браты мае прыгожыя і вялікія;
але Гасподзь
не ўдабраволіўся выбраць зь іх.
6. Я выйшаў насустрач чужынцу,
і ён пракляў мяне ідаламі сваімі.

Чужыя ідалы халодныя —
Аж сьцюжаю душу скрабе,
Чужыя ідалы галодныя —
Усё ядуць як не ў сябе.

Чужыя ідалы ядвабныя,
Дзе ў вабнасьці стаіўся яд,
Чужыя ідалы, як вапнаю,
Пабеляць здрадай шэры сад.

На гонях родных
Рунь рунейшая,
Свой страх тужэй ратугу ўе.
Хай у радне,
Таму й раднейшыя
Бываюць ідалы свае.

